

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 587 Сьнежань 2011 г.
Год выданьня 62

## Шаноўныя чытачы!

Перад вамі апошні ў 2011 годзе нумар нашай газэты. Але, найважнейшым у годзе яго робіць тое, што выходзіць ён перад вялікімі Сьвятамі – Калядамі, калі мы ўслаўляем Хрыстова Нараджэньне, і сустрэчаю новага этапа нашага жыцьця – надыходзячага Новага году, цяпер ужо 2012.

Шмат важных падзеяў адбылося ў завяршаючым свой тэрмін на Зямлі 2011 годзе, пра ўсіх іх мы стараліся падаць вам інфармацыю на старонках газэты.

У краіне, дзе мы цяпер жывём, з вялікім смуткам адзначылі 10-ю гадавіну тэрактаў у Нью-Ёрку, якія каштавалі гораду тысячы жыцьцяў. А потым яшчэ 4.5 тыс. амэрыканскіх вайскоўцаў загінулі ў вайне ў Іраку, якая насьледавала па тэрактах. У сплываючым годзе нарэшце гэтая вайна скончылася і тысячы амэрыканскіх семьяў будуць сустракаць новы год з вясёлым настроем, што іх блізкія вярнуліся дамоў жывыя і здаровыя.

Па 10 гадоў адзначылі дзеці – равесьнікі тых падзеяў у Нью-Ёрку, якія нарадзіліся блізка да дня трагедыі. У беларускіх семьях у Амэрыцы гэта дзьве дзяўчынкі – Ганна Навумчык і Трыніті Сапун. Абедзьве рыхтаваліся прыйсьці на сьвет напярэдадні тых трагічных падзеяў і цяпер іхныя сьвяты народзінаў назаўсёды будуць зьвязаныя з памяцьцю пра тыя сумныя дні.

На нашай Бацькаўшчыне Беларусі за прайшоўшы год насуперак нашым надзеям становішча зьмянілася да горшага. Больш жорсткімі сталі рэпрэсіі супроць удзельнікаў дэмакратычнага руху. Дыктарскі рэжым у страху за сваю ўладу зрабіў рэальныя крокі да страты эканамічнай і дзяржаўнай незалежнасьці краіны.

Цягам 2011 году адыйшлі ад нас шмат вядомых і значных у нацыянальным масштабе асобаў у Беларусі і ў беларускім замежжы. Памяць усіх іх мы ўшаноўвалі ў нашай газэце.

Але, аптымістычным выглядае тое, што не перапыняецца рух супраціву дыктатарскай уладзе ў Беларусі і ва усёй беларускай дыяспары ў сьвеце. Беларускае нацыянальнае жыцьцё і ў гэтых неспрыяльных умовах працягваецца намаганьнямі рупліўцаў, якія дбаюць пра лепшую будучыню для сваёй краіны. Палітыкі і грамадзкія дзеячы з яшчэ большай энергіяй намагаюцца здабыць падтрымку і дапамогу з боку дэмакратычнага сьвету ў сваім змаганьні з дыктатураю і маюць ў гэтым значныя посьпехі. Сьвет усё больш даведваецца пра сытуацыю ў Беларусі і усё больш жорстка рэагуе на палітыку лукашэнкаўскіх уладаў.

Не заціхае, а часам і нават актывізуецца, беларускае жыцьцё ў замежжы, мы рэгулярна падавалі вам інфармацыі пра дзейнасьць беларускіх суполак ў іншых краінах і будзем рабіць гэта далей.

Адной з галоўных тэмаў нашых публікацый было жыцьцё беларускай эміграцыі ў Амэрыцы. За мінулы год мы перажылі канфлікты і непаразуменьні, важныя зьмены ў структуры БАЗА, якія негатыўна адбіліся на дзейнасьці цэлай арганізацыі. Але, жыцьцё ішло і праблемы паступова вырашыліся. Спадзяемся, што ў наступным годзе іх будзе менш і давядзецца пісаць толькі пра добрыя справы.

Новы 2012 год на парозе. Сустрэнем яго з аптымізмам, надзеяй і вераю, якія ёсьць добрымі праваднікамі да лепшай будучыні.

*Рэдакцыя*



### З Хрыстовым Нараджэньнем!

***Віншуем з Калядамі і Новым годам усіх чытачоў нашай газэты! Вясёлых вам Сьвятаў, добрага здароўя, спакою і дабрабыту ў вашых хатах, плёну ў працы і натхненьня да актыўнай дзейнасьці ў беларускім грамадзкім жыцьці.***

## Ліст да беларускага народу

Сьнежань 2011

Дарагія суродзічы!

Напярэдадні Калядных Сьвятаў, калі людзі традыцыйна жадаюць адзін аднаму шчасьця, здароўя і ўсялякіх памыснасьцяў у жыцьці, пішу да вас з трывогаю ў сэрцы.

За 2011 год чалавек, які называе сябе прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь, даказаў, што Беларусь для яго з'яўляецца нічым іншым, як толькі лёгка здабытым казённым дабром. Распараджаецца ён гэтым дабром так непрадказальна, ставіцца да беларускага народу – уласьніка гэтага дабара – з такім цынізмам, што ствараецца ўражаньне, быццам ён выконвае нечыя загады, якія нават не адпавядаюць ягоным уласным інтарэсам. За некалькі чырвонцаў прадаў душу і штораз глыбей лезе ў балота, куды усходнія "дабрадзеі" пакрысе яго сьпіхваюць.

Падзеі 19 сьнежня мінулага году, арышты апанентаў, маскоўскія дамовы наконт "таннага газу" ў замен за найкаштоўнейшую маёмасьць нашага краю – газавыя трубаправоды ў Эўропу, новыя "саюзныя " структуры", у якіх Беларусь будзе мець аж 6% галасоў (!!!), дазвол Расеі карыстацца нашай зямлёй для разбудовы сваіх ядзерных задумаў, ня гледзячы на жаданьне народу пазбыцца гэтай пагрозы, выпрабаваньне цярплівасьці народу праз стварэньне новых сілавых структураў, каб змагацца супроць каго (???) - ўсё гэта робіцца, каб сьцерці незалежную дзяржаву Беларусь з мапы сьвету. А шмат хто з нашых людзей усё яшчэ думаюць, што гэта робіцца для іх... І чакаюць.

Прыпамінаюцца гістарычныя ўрокі – генацыды, калі чалавецтва таксама чакала склаўшы рукі, што нешта зьменіцца, што не дойдзе да катастрофы.

Дарагія суродзічы! Становішча ў краіне не зьменіцца да лепшага бяз вас. А калі страціце сваю дзяржаву, што застанецца вашым дзецям і унукам??? Зноў маскоўская калёнія, забраны і зьнішчаны край, дзе яны будуць нічым іншым, як працоўнай сілай для нахабных і жорсткіх чужынцаў.

Кожны народ у сьвеце стараецца зьберагчы свой край, гэта наш сьвяты абавязак перад Богам. Кожны народ змагаецца за волю, за сваю чалавечую годнасьць. Кожны народ ганарыцца сваёй моваю, сваёй культураю, сваёй спрадвечнаю спадчынаю. Дарагія Суродзічы! Што сталася з намі??? Няўжо мы засталіся на тым самым ўзроўні патрэбаў, як былыя савецкія вязьні і нявольнікі? Сёньня нават вязьні і нявольнікі жадаюць быць вольнымі, паўнавартаснымі людзьмі.

*Заканчэньне на 2-й бачыне*

# Ліст да беларускага народу

Заканчэньне з 1-й бачыны

Не можа быць нашым імкненьнем толькі адно: “Абы выжыць да заўтра”. Бо ў выніку мы акажамся нежыцьцяздольнымі і не захаваем сябе, як народ з тысячагадовай гісторыяй.

Безумоўна, ёсьць здраднікі ў нашым народзе, якія служаць рэжыму і дапамагаюць гвалціць сваіх суродзічаў. Магчыма, гледзячы на іх ападаюць рукі ў сумленных людзей, але гэтую роспач мы мусім перамагчы. Мусім і можам! Будучыня нам не даруе, калі мы цяпер не разбудзімся, ці калі апомнімся запозна.

Нас дзесяць мільёнаў!!! Мы можам адрадзіць нашую вольную, незалежную Беларускую дзяржаву, мы маем правы “людзьмі звацца”, як казаў наш Янка Купала. Але, людзьмі мы будзем звацца толькі ў нашай вольнай краіне – Краіне Беларусь! Пакуль будзем дазваляць, каб нехта ёю гандляваў, пакуль будзем пад ярмом агрэсыўнага суседа, не будзем мець чалавечай годнасьці і павагі ад іншых народаў.

Дык жадаю ўсім вам сілаў, моцы, вытрываласьці, мужнасьці і цьвердасьці ў справе абароны нашай дзяржаўнай незалежнасьці і захаваньня беларускай нацыі, як адметнай і роўнай сярод іншых вялікіх і малых народаў сьвету.

Няхай Сьвята Божага нараджэньня абудзіць у кожным з вас жаданьне адрадзіцца да новага жыцьця, дзе не будзе месца гвалту, прыніжэньню, дзе можна будзе жыць вольна і шчасьліва і быць гаспадаром свайго жыцьця, а не падпарадкавацца чужой злоснай волі.

**Жыве Беларусь!**

*Івонка Сурвілла*
*Старшыня Рады*
*Беларускай Народнай Рэспублікі*

# Захавайма ня толькі веру, але і традыцыі бацькоў

***Калядны зварот да вернікаў Апостальскага візытатара для беларусаў грэка-каталікаў замежжа айца Аляксандра Надсана***

Сорак гадоў таму я наведаў першы раз Амэрыку. Быў якраз перадкалядны час. Што мяне ўразіла амаль адразу пасьля высадкі з самалёта ў Нью-Ёрку, гэта рэклямы на ўсіх вялікіх крамах і ўстановах з пажаданьнямі Merry Christmas (Вясёлых Калядаў), і тут жа побач Happy Hanuka (Вясёлай Ханукі).

Ханука — сьвята габрэйскае, якое прыпадае прыблізна ў той самы час, што і Каляды. Як і Каляды — гэта радаснае сьвята, «сьвята сьвятла», калі габрэі успамінаюць аднаўленьне ў 165 годзе да нараджэньня Хрыста ў Ерусаліме сьвятыні, якую зьнішчылі ворагі, пад чыім панаваньнем тады апынулася Палестына, і якія хацелі «ашчасьлівіць» габрэяў, змусіўшы іх адмовіцца ад веры ў адзінага Бога і традыцыі бацькоў і далучыцца да «вышэйшай» паганскай культуры іхніх заваёўнікаў. Аднак «няўдзячныя» габрэі адмовіліся ад такога дабрадзейства, паўсталі супраць сваіх захопнікаў і, нягледзячы на няроўныя сілы, перамаглі іх, захаваўшы непарушнай сваю веру і вернасьць традыцыям сваіх бацькоў.

Стрыжнёвым пунктам гэтай веры было чаканьне Мэсіі для аднаўленьня Валадарства Божага, што і здарылася з прыйсьцем на сьвет



Госпада нашага Ісуса Хрыста, нараджэньне якога мы цяпер сьвяткуем. Такім чынам, сьвята Ханукі мае прамое дачыненьне да нашых Калядных сьвятаў. Яно дае нам таксама шмат матэрыялу да роздуму аб важнасьці захаваць ня толькі веру, але і вернасьць традыцыі бацькоў, мець сьмеласьць бараніць яе і не паддацца спакусе далучыцца да «вышэйшай» чужой культуры.

Вось гэтую думку хачу пакінуць да развагі вам у гэты радасны дзень нараджэньня Госпада Бога і Збаўцы Нашага Ісуса Хрыста.

*а. Аляксандар Надсан*
*24.12.2011*
*Каляды 2011*

***9 сьнежня сёлета споўнілася 120 гадоў ад нараджэньня клясыка беларускай літаратуры паэта Максіма Багдановіча. Да Калядных сьвятаў падаем тут ягоны знакаміты “Апокрыф”, які нагадае нам пра духоўны сэнс Сьвята, пра значнасьць прыходу Хрыста ў гэты сьвет для кожнага з нас і пра нашу адказнасьць за спаўненьне ягоных запаветаў.***

# А П О К Р Ы Ф

1. Ад Максіма Кніжніка пачатак...

2. І калі скончылася сем тысяч год ад стварэння свету, Хрыстос ізноў зышоў на зямлю і хадзіў па ёй, каб споўнілася тое, аб чым сведчылі пракокі.

3. І хадзіў Ен па ўсім Забраным Краі і па Занёманшчы-не, і па Задзвіншчыне, і па Бярэзінскай зямлі.

4. І разам з ім святы Пётра і святы Юр'я. Але ніхто з людзей не пазнаваў Яго.

5. Бо ішлі яны босымі нагамі з непакрытымі галовамі і былі адзетыя ў белы кужаль ды суконныя світкі, а не таго спадзяваліся людзі.

6. Таму ніхто не ўзяў увагі на іх, калі ў часе жніва праходзілі між працуючых людзей.

7. Толькі музыка, катораму цяпер не было чаго рабіць, падыйшоў да іх і сказаў: сорамна мне, бо сягоння дзень працы і ўсе клапоцяцца каля зямлі; адзін я нікчэмны чалавек.

8. І сказаў яму Хрыстос: не смуціся ў сэрцы сваім. Ці ж не твае песні спяваюць яны цяпер, у часе жніва! Таму не схіляй нізка галавы твае, і не хавай аблічча ад вачэй людскіх.

9. Бо няма праўды ў тым, каторы кажа, што ты — лішні на зямлі. Запраўды кажу я табе: надыйдзе яму гадзіна горычы — і чым ён разважыць тугу сваю, апроч песні твае? Як у дзень смутку, таксама ў дзень радасці ён прыза-вець цябе.

10. І навучаючы яго, казаў: пад песні кладуць чалавека ў калыску, і з спевамі ж апушчаюць у магілу яго.

11.Штодзённымі клопатамі поўніцца жыццё людское. Але калі зварухнецца душа чалавека,— толькі песня здолее спатоліць яе. Шануйце ж песні свае.

12. Бо спяваюць навет і жабы ў багне, а ці ж не лепшымі будзеце вы за іх?

13. Так навучаў Хрыстос музыку. Але Пётра, пачуўшы словы яго, сказаў: Вучыцелю, у гэтай краіне ёсць людзі, каторым няма чаго есці. Ці ж не сціснецца ад сораму сэрца таго чалавека, каторы, шукаючы скарынкі хлеба, прыйдзе з песняй да іх?

14. У адпаведнасці яму, сказаў Хрыстос: так, жыццё гэтых людзей цяжкое, беднае і прыгнечанае. Чаму ж ты хочаш яшчэ пазбавіць іх красы! Мала дадзена ім — няўжо ж трэба, каб было яшчэ менш?

15. І, абярнуўшы аблічча свае да музыкі, папытаўся: калі пяюць песні ў вас?

16. Музыка адказаў: пяюць на Каляды, на Запускі, на Вялікдзень, на Троицу, на Яна Купалу, у Пятроўку, на зажынках і дажынках.

17. Пяюць на радзінах і хрэсьбінах, пяюць дзіцё ка-лыхаючы, і самі дзеці пяюць гуляючы; пяюць на ігрышчах і вяселлях, І на хаўтурах, і ў бяседзе, і пры працы, і на вайну ідучы, і ўва ўсякай іншай прыгодзе. Увесь круглы год пяюць.

18. І мовіў Хрыстос Пятру: ты, шкадуючы галодных людзей, асудзіў песню, але самі галодныя не асудзілі яе. Жывая яшчэ душа ў народзе гэтым.

19. Тады ізноў сказаў Пётра: але няхай жа ў песнях будзе страва для душы, няхай будуць думкі добрыя І навучаючыя, каб апроч красы, быў у іх і спажытак чалавеку.

20. І адказаў яму Хрыстос: няма красы без спажытку, бо сама краса І ёсць той спажытак для душы.

21. І навучаючы іх, мовіў: агляніцеся навокал! Ці ж не ніва калыхаецца каля нас?

22. Цяжка каля яе працаваў гаспадар і, вось бачыць: паміж збожжа ўзраслі васількі.

Заканчэньне на 3-й бачыне

# А П О К Р Ы Ф

*Заканчэньне з 2-й бачыны*

23. І сказаў ён у сэрцы сваім: хлеб адбіраюць у мяне гэтыя сінія кветкі, бо поўнаважкія каласы маглі б узрасці тут заміж васількоў.

24. Але, яшчэ з малацця краса іх прыйшлася мне да душы. І таму я не вырву з каранём іх і не выпляню, як усякае благое зелле. Няхай растуць і радуюць, як у маленстве, сэрца маё.

25. Так казаў сабе гаспадар у сэрцы сваім! І не падняў ён рукі на васількі.

26. Я ж кажу вам: добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?

27. І, кажучы так, пачуў Ен песню жнеек, і прамовіў: слухайце што кажуць словы гэтай песні. Яе складалі людзі, якія ведаюць, чаго варты хлеб.

28. Яны ж пачулі, што словы тэй песні кажуць: няма лепей цвяточка над васілёчка. І далей ужо моўчкі ішлі яны.

29. І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым, мяккім пылу дарогі сляды.

30. Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх.
Амін.

*Рукапіс гэты адшукаў Максім Богдановы*

*[1913]*



У ноч калядную збяры
Усіх здарожаных,
халодных,
Усіх забытых і галодных,
І раздары свае дары.
Усё, што даў табе
Гасподзь,
Каб ты апошнім
Мог дзяліцца.
Бо ўдачы гладкая цяліца
Пасецца, каб аддаць
стокроць.

Прасі на кут сваіх Дзядоў
Абнашчыцца куццёю
посна,
Каб не шукаць гадзінай
познай
У небе памяці слядоў.
Як вогнішча, разварушы
Тугу,
Што пазірае нема.
І ціха вока Бэтлеема
Узыдзе ў поцемках душы.

*Рыгор Барадулін*

## Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Віншуе ўсіх сяброў БАЗА з Калядамі і Новым годам. Дзякуем усім за самаадданую грамадзкую працу дзеля падтрыманьня плённай дзейнасьці нашага Задзіночаньня. Жадаем нашым сябрам ў надыходзячым 2012 годзе добрага здароўя, дабрабыту вашым семьям, спакойнай сяброўскай супрацы на беларускай ніве, каб не занікала беларуская прысутнасьць у Амэрыцы.

**ДАРАГІЯ СЯБРЫ!**

***ЧАКАННЕ КАЛЯДАЎ І НОВАГА 2012 ГОДА - ПАРА НАДЗЕІ, ЧАС СПАДЗЯВАННЯЎ НА ТОЕ, ШТО ЗБУДУЦЦА САМЫЯ ЗАПАВЕТНЫЯ МАРЫ! НАМ, БЕЛАРУСАМ, ЁСЬЦЬ У ШТО ВЕРЫЦЬ -- У СЯБЕ, У ТОЕ, ШТО НАША БАЦЬКАЎШЧЫНА СТАНЕ САПРАЎДЫ ВОЛЬНАЙ, ДЭМАКРАТЫЧНАЙ І ЗАМОЖНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ! НЯХАЙ ЖА ЎСЕ НАШЫ НАДЗЕІ СПРАЎДЗЯЦЦА, А МАРЫ СТАНУЦЬ РЭЧАІСНАСЬЦЮ !***
***ВІНШУЕМ ВАС З НАДЫХОДЗЯЧЫМІ РАДАСНЫМІ СЬВЯТАМІ !***
***ЖАДАЕМ ШЧАСЬЦЯ, ПОСЬПЕХАЎ І МОЦНАГА ЗДАРОЎЯ !***

*ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ*

**Шаноўныя суайчыннікі!**

Жадаем вам вясёлых Калядаў і шчаслівага Новага году.
Моцнага вам здароўя і асабістых посьпехаў.

*Управа Згуртаваньня Беларусаў ў Вялікай Брытаніі*




## Парафіяльная Рада Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку

*Віншуе сваіх прыхажанаў і ўсіх беларусаў у Амэрыцы і на Бацькаўшчыне з Калядамі і Новым годам.*

*Жадаем вам у добрым настроі адсьвяткаваць гэтыя значныя падзеі сярод блізкіх па крыві і па духу вам людзей.*

*Няхай Усемагутны Бог пашле вам спакойны, багаты на Боскія міласьці год. Добрага вам здароўя, сілаў і цьвёрдасьці духу ў змаганьні з жыцьцёвымі праблемамі, плённай працы на беларускай ніве.*

**Паштоўкі палітвязьням**

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня накіравала сьвяточнае віншаваньне з Калядамі і Новым годам палітычным вязьням у Беларусі. У ім гаворыцца: “Выказваем шчырую салідарнасьць з Вамі – хто пакутуе сёньня за кратамі за тое, што хацеў свабоды і лепшага жыцьця для сваёй краіны. У замежжы мы працягваем вашу справу і робім усё магчымае, каб паспрыяць краху дыктатарскай улады на нашай Бацькаўшчыне і вашаму найхутчэйшаму вызваленьню”.

**Пятрусь Капчык з Украіны віншуе сп-ню Лізавету Літаровіч і спадарства Надзеі і Янкі Запруднікаў:**

ВІТАЮ з надыходзячым НОВЫМ 2012 ГОДАМ ды КАЛЯДАМІ! Зычу спакойнага штодзённага жыцьця, шчасьця, посьпехаў у грамадзкай працы,моцнага здароўя!

# Гілары Клінтан у Вільні

Дзяржсакратар ЗША Гілары Клінтан прыехала ў Вільню і ўзяла ўдзел у Сэсіі Рады міністраў АБСЭ. У сваім выступе на Сэсіі яна запатрабавала ад уладаў Беларусі вызваліць палітзьняволеных: “ Калі яны ня будуць вызваленыя, да Беларусі надалей будуць ужывацца эканамічныя санкцыі, а для дзьвюх соцень беларускіх афіцыйных асобаў захаваюцца візавыя забароны...За людзей можна прымаць любыя эканамічныя санкцыі»

Дзяржсакратар таксама сустрэлася ў Вільні зь сябрамі праваабарончага цэнтра «Вясна» Тацянай Равякай, Валянцінам Стэфановічам, старшынёй БХК Алегам Гулакам, старшынёй БАЖ Жанай Літвіной, кіраўніцай Беларускага дома правоў чалавека Ганнай Герасімавай і журналісткай Натальляй Радзінай. Паводле Радзінай, спадарыня Клінтан заявіла, што ЗША і Эўразьвяз павінныя каардынаваць палітыку адносна Беларусі і амэрыканскі бок будзе рабіць усё магчымае дзеля гэтага. Замест заплянаваных 15 сустрэча працягвалася 40 хвілін.

*06.12.2011*



# “Каб застацца ва ўладзе, Лукашэнка ахвярue незалежнасьцю Беларусі»

5 сьнежня на Форуме грамадзянскай супольнасьці АБСЭ ў Вільні галоўнай тэмай было парушэньне правоў чалавека ў Беларусі.

Кіраўнік арганізацыі Freedom House з Амэрыкі Дэйвід Крэймэр заявіў:

«Я мяркую, што для ЗША і ЭЗ вельмі важна рабіць дадатковыя крокі ва ўжываньні эканамічных санкцыяў і рабіць гэта як мага хутчэй. Перад тым, як Лукашэнка прадасьць краіну Расеі... Мы бачым, што дзеля таго, каб застацца ва ўладзе, Лукашэнка ахвярue незалежнасьцю краіны».

Сп. Крэймэр выказаў шкадаваньне, што Расея аказвае падтрымку рэжыму Лукашэнкі: «10 млрд. даляраў на фіктыўную АЭС, мільярды даляраў энэргетычных субсыдый, пазык. На жаль, гэта крок назад, бо, на маю думку, Лукашэнка з узьнікненьнем эканамічнага крызысу апынуўся на тонкім лёдзе, які сам і стварыў».



**Дэйвід Крэймэр**

# 20 гадоў без СССР

8 сьнежня споўнілася 20 гадоў Белавежскай дамове, якая паклала канец існаваньню Савецкага Саюза. Барыс Ельцын, Леанід Краўчук і Станіслаў Шушкевіч падпісалі ў Віскулях дамову аб дэнансацыі саюзнай дамовы, на падставе якой быў створаны СССР.

**Белавежская дамова мае выключнае гістарычнае значэньне. Дзякуючы ёй і ў выніку намаганьняў нацыянальна-адраджэнскага руху, Беларусь зьдзейсьнілася як незалежная дзяржава. Але, гэтыя 20 гадоў адзначаныя і стратамі, невыкарыстаньнем Беларусьсю прадстаўленай гісторыяй альтэрнатывы Адбыўся адкат ад дэмакратычнага шляху да аўтарытарнага рэжыму, адбудаванага на асколку савецкай імпэрыі. Настальгія па саюзу вельмі доўга панавала ў беларускім грамадзтве і гэта шмат у чым вызначыла далейшыя палітычныя працэсы ў Беларусі.**



# ВЫШЭЙШАЯ МЕРА ПАКАРАНЬНЯ

## *(Інфармацыйная заява)*

25 лістапада адбылася катастрафічная падзея для будучыні Беларусі і вялікае дзяржаўнае злачынства. Лукашэнка, ня маючы на гэта права і нават не інфармуючы народ, прадаў Расеі (фактычна, здаў) галоўную энэргетычную сістэму Беларусі — Белтрансгаз, найважнейшы стратэгічны інтэрас краіны.

Каб ашукаць простых людзей, ён і агентура з Масквы крычаць, што расейцам здалі непатрэбную іржавую трубу. Але гэта не “труба”, а энэргетычная інфраструктура, якая абслугоўвае 86 адсоткаў усёй эканамічнай вытворчасьці Беларусі і бытавую сфэру. Хто валодае Белтрансгазам, той валодае краінай. Беларусь кінута ў поўную энэргетычную залежнасьць ад Масквы і ня зможа цяпер праводзіць сваю энэргетычную палітыку (купляць іншы газ, ажыцьцяўляць Балта-Чарнаморскія праекты і г. д.). Стратэгічныя аб'екты ніколі не прадаюцца.

Чаму Лукашэнка зрабіў такое злачынства і як яно называецца?

Ён зрабіў гэта, каб уратаваць сваю скуру, бо фінансы і гаспадарка даведзены ім да ўпадку і загнаныя ў тупік. Ён абрабаваў народ, залез ў даўгі і цяпер пачаў распрадаваць нашу дзяржаву, каб утрымацца ва ўладзе. Гэта называецца на мове Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь — здрада дзяржаве (арт. 356, ч. 1,2) і караецца альбо ад 10 да 25 гадоў турмы, альбо вышэйшай мерай пакараньня — сьмерцю.

Акрамя таго, Лукашэнка абакраў беларускіх людзей і прадаў крадзеную прыватную маёмасьць, а маскоўцы за бясцэнь крадзенае купілі. Згодна Закона аб прыватызацыі (1992 г.) і Пастановы ВС аб разьдзяржаўленьні і прыватызацыі (1993 г.) палова дзяржаўнай маёмасьці (50%) належыць грамадзянам Беларусі паводле прыватызацыйных чэкаў. Улада павінна была стварыць механізм для канкрэтнай перадачы гэтай уласнасьці людзям. Такі механізм пачаў ствараца ў пачатку 90-х. Але Лукашэнка, дайшоўшы да ўлады, усё ліквідаваў і ў 1997 годзе, насуперак Канстытуцыі, праз неканстытуцыйную папраўку ў Закон Аб уласнасьці ( Закон прыняты ў 1990 г. пад ціскам Апазыцыі БНФ) і праз нелегітымную “палату” незаконна перадаў права распараджацца народнай доляй маёмасьці Саўміну.

(У Законе Аб уласнасьці было напісана, што Саўмін распараджаецца “ад імя ўласьнікаў”, гэта значыць, што бяз згоды людзей урад ня можа прадаць іхнюю уласнасьць. У 1997 годзе Лукашэнка гэтыя словы незаконна выкінуў.)

Цяпер у Маскве скарысталі тую бомбу запаволенага дзеяньня і зрабілі прадуманы манэўр. Беларусаў абакралі двойчы: адзін раз намінальна ў 1997 і другі раз рэальна — 25 лістапада 2011 г.

Скупшчыкі крадзенага — маскоўцы — разумеюць, што робяць і чым займаюцца, але яны павінны ведаць, што крадзенае ў выніку зьдзелкі з нелегітымнай асобай прыдзецца вярнуць па суду і па закону.

Злачынствы здрады дзяржаве і страты нацыянальнай маёмасьці павінен разглядаць па закону (арт. 88 Канстытуцыі) Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь. Зьвярнуцца з іскам у Вярхоўны Суд па гэтых пытаньнях можа кожны грамадзянін краіны, група грамадзянаў і арганізацыі.

У выпадку, калі Суд парушыць Закон і ня прыме іск да вытворчасьці ці дэмагагічна адмовіцца займацца справай, у народа, згодна Канстытуцыі (арт. 3) застаецца права самаму вырашыць гэтае пытаньне любым спосабам. Можа быць створаны Народны суд (у Беларусі ці за мяжой), які разгледзіць і прыме рашэньні, згодна артыкулаў Канстытуцыі і Крымінальнага Кодэксу, уключна з вышэйшай мерай пакараньня.

*Сойм Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ*
*11 сьнежня 2011, г. Менск*

# Плошча-2011

*19 сьнежня споўнілася гадавіна драматычных падзеяў у Беларусі пасьля мінулагодніх прэзыдэнцкіх выбараў. Людзей, якія выйшлі ў Беларусі запаліць сьвечкі й выказаць салідарнасьць з палітвязьнямі, жорстка затрымлівалі «байцы ў цывільным».*



## Сэнат ЗША ўхваліў «Акт аб дэмакратыі і правах чалавека ў Беларусі»

Напярэдадні гадавіны разгону акцыі пратэсту 19 сьнежня 2010 году старшыня Камісіі па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Эўропе Крыстафэр Сьміт прадставіў законапраект у Сэнаце ЗША .

Законапраект быў першапачаткова прыняты Палатай прадстаўнікоў 6 ліпеня 2011 году. Потым дакумэнт са зьменамі зацьвердзілі аднагалосна 14 сьнежня. Дэбаты па законапраекту адбыліся 19 сьнежня. Канчатковае галасаваньне прайшло 20 сьнежня.

Цяпер законапраект мае падпісаць прэзыдэнт Злучаных Штатаў Барак Абама.

Ухвалены законапраект уносіць зьмены і папраўкі ў дзейны закон «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі».

## Джо Ліберман: ЗША и Эўразьвяз павінны ўвесьці эканамічеыя санкцыі супроць Беларусі

Сэнатар Джо Лібэрман выступіў у Кангресе ЗША у сувязі з гадавінаю акцыі 19 сьнежня 2010 году ў Менску. Ён сказаў у сваёй прамове:

“Будучыня Беларусі належыць кожнаму беларусу, хто хоча лепшай будучыні для сваёй краіны, будучыні ў дэмакратыі. І мы будзем іх усяляк падтрымліваць у гэтай справе як сёньня, у гадавіну прэзыдэцкіх выбараў 19 сьнежня 2010 году, так і ў кожную наступную гадавіну, да таго часу, пакуль Беларусь не стане вольнаю”.



## Прыйшоў час прыцягнуць Лукашэнку да адказнасьці



Да гадавіны падзеяў 19 сьнежня 2010 года старшыня Гэльсінскай камісіі ЗША Крыстафэр Сміт заклікаў Лукашэнку спыніць рэпрэсіі. Ён патрабаваў неадкладнага і безумоўнага вызваленьня ўсіх палітычных вязьняў.

“У апошні год дыктатар прымаў шырокія і жорсткія рэпрэсыўныя меры, падобных якім не назіралася ў Эўропе больш дзесяці гадоў”, - адзначаецца ў заяве Крыса Сміта. На ягоную думку “прыйшоў час, каб прыцягнуць Лукашэнку і ягоных памагатых да адказнасьці”.

## Слова ўдзячнасьці

***Галоўная Управа БАЗА выслала ліст падзякі Дзяржаўнаму сакратару ЗША сп-ні Гілары Клінтан і Прэзыдэнту праваабарончай арганізацыі Freedom House сп. Дэвіду Крэймэру за іх актыўную дзейнасьць у падтрымку дэмакратычных сілаў Беларусі ў іх змаганьні супроць дыктатарскага рэжыму.***

# Гадавіна 19 сьнежня ў Вашынгтоне

Год таму ў Менску рэжым Лукашэнкі брутальна разагнаў дэманстрацыю дзесяткаў тысячаў людзей, якія мірна пратэставалі супраць чарговых сфальсіфікаваных выбараў. У Вашынгтоне з гэтай нагоды прайшло шэраг мерапрыемстваў.

На прэс-канфэрэнцыі 19 сьнежня побач з будынкамі амэрыканскага Кангрэсу кангрэсмэн Крыс Сміт паведаміў, што Акт ў падтрымку дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі 2011 году быў зацьверджаны абедзьвума палатамі Кангрэсу. Ён заявіў, што “беларускі народ заслугоўвае шмат лепшага, чым Лукашэнку”. Алеся Кіпель, старшыня Вашынгтонскага Гуртка БАЗА, далучылася да гэтай заявы, дадаўшы, што “Беларусь прадбачвае лепшую будучыню пасьля Лукашэнкі”. Ірына Красоўская, старшыня Фундацыі “Мы помнім”, заснаванай дзеля захаваньня памяці пра ахвяры рэжыму, прыгадала, што “цяпер існуе істотная пагроза для жыцьця палітычных вязьняў” і “іхнае вызваленьне і рэабілітацыя павінны быць першым крокам… для стварэньня дэмакратычнай і свабоднай Беларусі”.

Увечары прайшла дэманстрацыя перад амбасадаю Рэспублікі Беларусь. Сярод дэманстрантаў быў Слава Бортнік, які будучы нядаўна ў Беларусі, паведаміўаднаму з карэспандэнтаў, што “Лукашэнка ў сувязі з глыбокім пагаршэньнем эканомікі губляе нават тую падтрымку ў правінцыі, якую ён меў раней”.

У наступны дзень дэлегацыя БАЗА спаткалася ў Дзярждэпартамэнце з Бакстэрам Гантам, новым дырэктарам Офісу Украіна, Малдова, Беларусь. Ён паведаміў пра стараньні вызваліць палітвязьняў, працяг санкцыяў і згадзіўся, што існуе патрэба лепшага інфармаваньня насельніцтва.

Пазьней у офісе German Marshall Fund адбылася прэзентацыя ўзнагародаў у памяць былога кіраўніка гэтай установы Рональда Асмуса. Да выдзяленьня прэміяў далучылася амбасада Польшчы ў ЗША. Узнагароды былі прысьвечаныя тэме падтрымкі дэмакратыі ў Беларусі. У конкурсе на атрыманьне ўзнагародаў бралі ўдзел студэнты амэрыканскіх універсытэтаў. Пераможцамі сталі: Вікторыя Кук з друкаванай тэмай “Сьмеласьць беларускай рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі”, Малгажата Вайтунік з мультымедыяльным праектам “Свабода ў Беларусі”, Макс Седон - “Парадокс Пушкіна” пра мастака Алеся Пушкіна, Вільям Шнайдэр - “Вайна Лукашэнкі з прэсаю” пра журналіста Андрэя Пачобута.

Беларуская студэнтка з амэрыканскага універсытэту Надзея Кучура Бэтсан з Гарадзеншчыны атрымала ўзнагароду за вершаваны аўдыяпраект “Змаганьне за крошкі дэмакратыі”. Ён пачынаецца радкамі Янкі Купалы “А хто там ідзе?”, далей згадваюцца тыя сучасныя пакуты і зьдзекі, якія церпяць беларусы.

*Вячка Станкевіч*

## Пікет каля амбасады Беларусі ў Вашынгтоне

20 сьнежня беларусы ў Амэрыцы вышлі ў Вашынгтоне на акцыю с плякатамі «Лукашенка, Гаага чакае цябе», «Спыніце апошнюю дыктатуру ў Эўропе!», «Не рэпресіям у Беларусі!».



# Весткі з беларускага замежжа

## Юрта міру (World Yurt of Peace)-2011

***Міжнародны фестываль - Festival of the Peoples' Friendship, праходзіў у Канадзе 25-27 лістапада 2011. У ім брала удзел беларуская мастачка-вышывальшчыца з Таронта Ірына Варабей.***



Ірына Варабей каля сваёй эспазіцыі

## Візіт Алеся Міхалевіча ў Аттаву

Беларусы Аттавы з вялікай прыемнасцю даведаліся, што Алесь Міхалевіч, былы кандыдат ў прэзідэнты РБ, атрымаў Right and Democracy John Humphrey Award. Гэта прэмія названа ў гонар канадскага прафесара, які прыгатаваў першы праект Універсальнай Дэкларацыі Правоў Чалавека. Яна ўручаецца 20-ты раз. Рашэннс аб узнагародзе прымаў камітэт Міжнарожнага цэнтра па правах чалавека і дэмакратычнаму развіццю (Right and Democracy). Цэрэмонія ўручэння прэмII адбылася 22 лістапада 2011 года ў Нацыянальнай Галерэі Канады. На ёй прысутнічалі прадстаўнікі Міжнароднага цэнпра, дьшламаты, парламентарыі, уключна з паслам Літвы і Аўстрыі, беларусы Аттавы. Цэрэмоніьо адкрыў прэзідэнт Цэнтра, сп. G. Latiluppe, затым выступіў старшыня камітэта, прафесар A. Braun. Яны далі звесткі аб прэміі і матьшы, якімі кіраваўся камітэт пры сваім рашэнні. Прэмію ўручыла сенатар канадыйскага парламента, сп. Андрэйчук, маці якой мае беларускае паходжанне. Затым выступіў сп. А. Міхалевіч, які ў сваёй прамове успомніў іншых барацьбітоў за правы і дэмакратыю ў Беларусі, а таксама выказаў намер і надалей працягваць змаганне за ўсталяванне ў Беларусі дэмакратычных свабод. Пасля цэрэмоніі удзельнікі рабілі памятныя здымкі са сп. Міхалевічам.

Сама прэмія ўклъчае грашовую частку (30 тыс. даляраў), а таксама падтрымку і стварэнне умоваў для намінанта падзяліцца сваімі думкамі і сваёй дзейнасцю з канадыйскай грамадзкасцю І безумоўна пазнаёміць яе з краінай Беларусь. Пасля Аттавы сп. Міхалевіч паехаў у тур па краіне з выступамі у Таронта, Ванкуверы і Калгары. Наколькі ведаю, 24 лістапада, сп. Міхалевіч сустрэўся з беларусамі Таронта ў Беларускім культурна-рэлігІйным цэнтры. Нягледзячы на позні час, пасля 9 гадзін вечара, на сустрэчу прышлі звыш трох дзесяткаў чалавек, якія да поўначы мелі магчымасць удзельнічаць у дыскусіі аб становішчы у Беларусі.

1 снежня Алесь Міхалевіч вярнуўся ў Аттаву, дзе вечарам ён меў магчымасць сустрэцца з беларусамі ў прыюатнай, цёплай атмасферы. На вечарыне, на якой таксама адзначалІ угодкі Слуцкага Збройнага Чыну, прысутныя атрымалі інфармацыю ад сп. Міхалевіча пра падзеі 19 снежня мінулага года, а таксама адказы на пытанні пра яго далейшыя планы.

*Пётра Мурзёнак*
*Аттава, 15 снежня 2011 года*

## Дзень Беларусі (канадыйскія беларусы прэзэнтуюць Бацькаўшчыну)

Сёньня ў межах Вялікага Таронта - адміністрацыйнага цэнтру найбуйнейшай канадыйскай правінці Антарыё пражываюць дзесяткі тысячаў беларусаў. Сваёю руплівою працаю ў самых разнастайных галінах канадыйскае эканомікі яны робяць істотны ўнёсак у агульны дабрабыт канадыйскага грамадзтва.
Канада - краіна імігрантаў. Улады як на федэральным, так і на мясцовым узроўнях, праводзяць у жыцьцё палітыку шматкультурнасьці.

У аздараўленчым цэнтры невялічкага 40-тысячнга гарадка з самым што ні ёсьць канадыйскім назовам Мэйпл, што азначае клён, ужо на працягу дзевяці год працуе медсястрою Сьвета Кот, прыбыўшая са сваёю сям'ёю ў Канаду зь Менску трынаццаць з паловаю год таму.

У знак пашаны за ейную добрасумленную доўгатэрміновую працу адміністрацыя цэнтру абвясьціла 22 лістапада 2011 г. Днём Беларусі і папрасіла Сьвету рэпрэзентаваць краіну свайго паходжаньня перад медперсаналам і пацыентамі.

Сьвета падрыхтавала выставу з рэчаў, што знайшліся на той час у хаце. Гэта фотаальбомы "Музей старажытнае беларускае культуры", пра Менск, пра беларускія замкі і палацы. На стале былі бачны кніга Уладзімера Арлова "Краіна Беларусь", газеты "Беларус" (выдаецца уў ЗША), "Беларускае Слова" (газета канадыйскіх беларусаў). Таксама былі раскладзены зьнятыя с хатніх сьценаў керамічныя талеркі з выявамі архітэктурных помнікаў Беларусі, сабраныя эблемы гарадоў Пружана, Бярэсьце, Менск, гарадзкога пасёлку Ражаная, дзе знаходзіцца палацавы комплекс Сапегаў, кубак з выяваю гербу знакамітага беларускага роду. На стэндах былі разьмешчаны раздрукаваныя выявы ўзораў беларускіх нацыянальных строяў розных часоў і рэгіёнаў Беларусі, мапа Беларусі з назовамі галоўных гарадоў, іншая друкаваная інфармацыя пра Беларусь. На асобным стэндзе былі прадстаўлены выявы Бел-Чырвона-Белага Сьцягу і Герба Пагоня.

Прысутныя зь цікавасьцю разглядалі ільняныя ручнікі, якія ад высяваньня ільну й да вышываньня арнамэнту былі цалкам выраблены сьвякроўю Сьветы ў канцы саракавых гадоў мінулага стагоддзя. І, канечне, мацнейшае ўражаньне на прысутных зрабіў нацыянальны беларускі строй, у які перад пачаткам прэзентацыі хуценька перапранулася Сьвета. Пасьля сканчэньня ейнага натхнёнага расповеду пра сваю краіну амаль увесь адміністрацыйны і медыцынскі персанал і тыя пацыенты, хто мог па стану здароўя, стаялі ў чарзе, каб зрабіць на памяць здымак са Сьветай. Некаторыя зь іх потым прызнаваліся Сьвеце, што раней лічылі, што Беларусь і Малдова ёсьць рэгёнамі Ўкраіны(!).

Увага, падзякі з боку кіраўніцтва цэнтру і асабліва ад пацыентаў, дзеля якіх дзяржава й пабудавала гэтую цудоўную аздараўленчую ўстанову, асэнсаваньне годнасьці зьдзейсьненага надаюць людзям унутранае сілы духоўна выжыць на чужыне.

Сьвятлана і яе муж Алесь выказваюць падзяку за дапамогу :
"Вялікая і цёплая падзяка Валянціне Шаўчэнка, якая ласкава адгукнулася на просьбу і прадаставіла свае беларускія строі для скарыстаньня падчас прэзентацыі. Гэта ёсьць прыклад таго, як мы можам ладзіць нешта на грунце агульнага.
Давайма жыць па-сяброўскі, як людзі, аб'яднаныя тым самым агульным - любоўю да Бацькаўшчыны.

**Жыве Беларусь!"**




Сьвета Кот ля свае выставы

# Літува (Вільня)



26 лістапада ў Таварыстве беларускай культуры адбылася імпрэза, прысьвечаная Слуцкаму Збройнаму Чыну - Дню Герояў. Старшыня ТБК Хведар Нюнька зачытаў адмысловы Зварот да беларусаў сьвету Старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвілы адзначыць вялікую падзею ў гісторыі Беларусі. Затым быў паказаны дакументальны фільм , дзе былы сябра Рады ТБК Валеры Місюк, нажаль трагічна загінуўшы, падрабязна распавёў пра ход Слуцкага паўстаньня.

Хведар Нюнька паказаў прысутным фотаздымкі помніка-капліцы на беларускіх могілках Мельбурна, дзе намаганьнямі аўстралійскіх беларусаў 35 гадоў таму, ў гонар Дня Герояў, была пабудавана гэтая капліца з надпісам "на вечны ўспамін спачылых усіх ведамых і няведамых беларусаў".

На імпрэзе выступіў з прамоваю старшыня грамадзкага і палітычнага прадстаўніцтва Беларусі ў Літве Алег Мяцеліца, каардынатар выбарчага штабу ў прэзыдэнты Беларусі Уладзміра Някляева. Ён распавёў пра дзейнасьць і пляны арганізацыі . Дамовіліся аб цесным супрацоўніцтве з беларусамі Літвы ў акцыях за дэмакратызацыю і свабоду ў Беларусі.

Старшыня ТБК распавёў пра юбілей беларускага дзеяча ў міжваенны час у Вільні Янку Багдановіча, рэдактара часопіса "Шлях моладзі". За беларускую патрыятычную дзейнасьць быў пакараны бальшавікамі і адсядзеў у сталінскіх лягерох. Памёр у 1990 годзе. На імпрэзе быў паказаны дакументальны фільм пра ягоныя паховіны.

На імпрэзе прысутнічалі трое сяброў БХД з Беларусі. Каардынатар праекта "Пакаяньне" Валерыя Чарнаморцава перадала прывітаньне ад Паўла Севярынца і распавяла пра дзейнасьць і мэты арганізацыі БХД. Свае выступленьні падзеям у Беларусі і Літве прысьвяцілі сябры: Кастусь Манкус пра трагічныя 24 і 27 лістапада 1996 г. , Алег Аблажэй- пра свой шлях да беларускага пісьменства. З прывітальным словам выступіў дырэктар Фонду грамадзянскай абароны Стасіс Каўшыніс.

Заключным акордам на імпрэзе было сьвяткаваньне дня народзінаў сябра Рады ТБК, ганаровага войта (старасты) Вяркяйскі сенюніі Вільні Вацлава Гульбіновіча. З добрым настроем і жаданьнем далей працаваць для беларускай справы развіталіся сябры да наступнай сустрэчы ўжо ў новым 2012 годзе.

*Аглядальнік.*
*Вільня 28 .11.2011*



МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

Да юбілею паэта ў Менску ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі" выйшла адмысловая энцыкляпедыя **"Максім Багдановіч"**, праца над якой была распачата ў 2008 годзе. Асьвятляючы асноўныя моманты жыцьця і творчасьці паэта, кніга стала пэўным вынікам развіцьця багдановічазнаўства на сённяшнім этапе дасьледавання спадчыны М.Багдановіча. У энцыкляпедыі зьмешчана каля 2000 артыкулаў.

# Украіна (Севастопаль)

9 сьнежня 2011 году, калі адзначаліся 120 –я ўгодкі ад дня нараджэньня Максіма Багдановіча, сябры Беларускай суполкі "Пагоня" імя Максіма Багдановіча ў Севастопалі ўрачыста адзначылі гэтую падзею.На мысе Гвардзейскім быў запалены сымбалічны Факел Свабоды ў гонар паэта.

Уся дзейнасьць нашага беларускага таварыста пранізана духам Максіма Багдановіча. У сядзібе суполкі ёсьць экспазіцыя, прысьвечаная аўтару "Пагоні". Наша сядзіба была створаная ў кватэры Міхаіла і Ніны Барташаў. Гэта сям'я афіцэра – беларуса, якога лёс закінуў на службу ў Севастопаль, яны пражылі там астатак жыцьця і абодва пахаваныя там, цяпер ў Севастопалі жывуць іх нашчадкі. Гэта мае бацькі і пасьля іхнага адыходу ў іншы сьвет мы вырашылі стварыць у іхнай кватэры беларускую сядзібу. Апошнія гады жыцьця Максіма Багдановіча былі зьвязаныя з блізкаю да Севастопаля Ялтаю, дзе паэт і пахаваны. Сябры суполкі вырашылі назваць сваё таварыства імем паэта.

У лютым 1997 году ў нашай сядзібе была ўрачыста закладзеная экспазыцыя , прысьвечаная Багдановічу. Пачатак ёй паклалаў абраз Аляксея Марачкіна "Я не самотны", якую нам падараваў сам мастак. З таго часу у нас сфармавалася паўнацэнная экспазіцыя, у якой ёсьць зборнікі твораў паэта розных гадоў выданьня, кнігі іншых беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, мастацкія творы, паштоўкі, беларуская сымболіка і шмат чаго іншага, зьвязанага з імем паэта. Штогод мы ўшаноўваем ягоную памяць у дзень народзінаў, наведваем месца пахаваньня. 13 сьнежня 2011 году ў Ялце на Старых могілках у 11 гадзін каля магілкі паэта быў запалены сымбалічны Факел Свабоды.

Наша суполка "Пагоня" таксама адзначыла гадавіну падзеяў у Менску 19 сьнежня мінулага году. 19 сьнежня сёлета мы сабраліся на мысе Гвардзейскі, каб узьняць наш бел-чырвона-белы сьцяг і запаліць Факел Свабоды у гонар герояў, якія выйшлі змагацца з рэжымам, якія сказалі "Не!" фальсіфікацыі выбараў і хамскай уладзе Лукашэнкі. Ганьба прыслужнікам у пагонах, ганьба халуям у судзейскіх мантыях і пракурорскіх мундзірах! Свабоду палітычным вязьням ў Беларусі!

Пагоні не разьбіць, не спыніць, не стрымаць,!

**Жыве Беларусь!**

*Валеры Барташ*

*Старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў "Пагоня" імя Максіма Багдановіча*

# Украіна (Ізяслаў)

У нашым гурце беларускай культуры"Зорка Венера" да 120-ых угодкаў ад нараджэньня Максіма Багдановіча 9 сьнежня мы падрыхтавалі літаратурна-музычны "зорапад""Жывеш не вечна,чалавек"...

Максім Багдановіч - непераўзыйдзены майстар трыялетаў, таму зусім не выпадкова, што наша свята пачынаецца з чытання аднаго з іх -"Калісь глядзеў на сонца я" ў выкананьні Алесі Мозуль. Яе зьмяняе Дзмітрусь Франчук, які чытае ўласны пераклад на ўкраінскую мову трыялета "Як птушка ў гібкіх трасніках"...Потым я запрашаю прысутных паслухаць славутую і бессьмяротную "Зорку Венеру" ў выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г.Цітовіча( аўдыёзапіс)...Настрой прысутных пайшоў угару,таму што "Зорка Венера" сапраўды мае магічны ўплыў на слухачоў.

А гэта значыць, што пара пачынаць "зорапад"...санетаў Багдановіча! На маю думку, найбольш хораша ў арыгінале былі прачытаныя санеты "Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі" ды "На цёмнай гладзі сонных луж балота" Аленай Кастушэвіч і Святланай Гут. Гучала на імпрэзе Багдановічава слова і па-украінску. У перакладах на украінскую мову прагучалі

"Пісьняру"("Ведай,брат малодий..."),"Веранiка"("Знову бачив я селиби...") у выкананні Уладзіка Ткачука і Веранікі Буранчык. Гучала й музычная "Вераніка" ў аўдыёзапісу. А пасля гэтага слова ўзяў мясцовы паэт Васіль Краўчук,які апавёў прысутным, што для яго значыць паэзія такой зоркі,як Максім Багдановіч. Закончыў ён свой выступ уласным вершам"Зорка Венера" заўсёды са мною"(па-украінску).

Завяршыўся наш Багдановічаў "зорапад" чытаньнем санета"Маладыя гады", калі 16 чалавек чыталі верш кожны па адным радку рознымі мовамі мовамі: беларускай, украінскай, расейскай, польскай, славацкай, чэскай, венгерскай, румынскай, крымска- татарскай, французскай, нямецкай, ангельскай, гішпанскай, партугальскай, сэрбскай, македонскай...Прысутныя маглі пабачыць выставу кніг Максіма Багдановіча з мае ўласнае бібліятэкі.

*ПЯТРУСЬ КАПЧЫК,*
*кіраўнік гурта беларускай культуры"Зорка Венера"*
*г.Ізяслаў, УКРАІНА*

# Юбілей Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку

**60 гадоў** таму 16 сьнежня 1951 г. у Нью Ёрку быў заснаваны Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (Belarusan Institute of Arts and Sciences). Сёньня ягоная абрэвіятура – БІНіМ – ведамая кожнаму беларусісту ў сьвеце

Інстытут, які злучыў бадай усе беларускія інтэлектуальныя сілы, што апынуліся на эміграцыі, у якасьці сваёй эмблемы цалкам мог-бы абраць не выяву кніжніка Францыска Скарыны, а Двупагоні, паколькі дзейнасьць БІНіМу ішла ў 2-х кірунках: "вонкавай" – у небеларускім грамадстве, і "нутраной" – у сваёй грамадзе.

Шматлікія досьледы, выкананыя ў Інстытуце й выдрукаваныя там, ня маюць аналягаў у дзяржаўных акадэмічных навуковых установах і сталіся прыкметнымі зьявамі. Дастаткова назваць скарыназнаўчыя працы ідэйнага заснавальніка БІНіМу Вітаўта Тумаша, манаграфію сёньняшняга дырэктара Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША", яго-ную-ж, разам з Зорай Кіпель, бібліяграфію "Беларусаведны друк на Захадзе", "Архівы БНР" Сяргея Шупы, "Ангельска-беларускі слоўнік" Валентыны Пашкевіч ды шэраг іншых.

Штогод выдаюцца "Запісы" – адзіны навуковы часапіс на эміграцыі. Новы том – болей як на 700 старонак – пабачыў сьвет акурат да ўгодкаў Інстытуту.

*Лявон Юрэвіч*




# Першыя старонкі гісторыі БІНіМу ў дакумэнтах

***16 сьнежня 1951 г. адбыўся ў Нью Ёрку арганізацыйны сход БІНіМу. Ніжэй падаюцца вытрымкі з пратаколу сходу.***

*Парадак дня:*

1. Адкрыцьцё сходу. 2. Выбары старшыні сходу. 3. Уступное слова праф. М. Дарашэвіча. 4. Прыймо статуту БІНіМу. 5. Выбары ўраду БІНіМу. 6. Бягучыя справы.

1. Арганізацыйны сходу БІНіМу адкрыў старшыня БАЗА інж. М. Гарошка.
2. На старшыню сходу аднагалосна быў выбраны др. А. Орса, які запрасіў у прэзыдыюм сходу: япіскапа БАПЦ уладыку Васіля, праф. Л. Акіншэвіча, Натальлю Арсеньневу і др. В. Тумаша. Пісаць пратакол сходу было даручана Ч. Ханяўку.
3. У ўступным слове праф. Дарашэвіч адзначыў, што яму давялося быць сьведкам адкрыцьця шэрагу навуковых установаў на Бацькаўшчыне – такіх, як Тэхнічны і Пэдагагічны Інстытуты, Інстытут Сельскае Гаспадаркі, Беларуская Акадэмія Навук і інш. Глеба для гэтага была поўнасьцю падрыхтаваная, але ўзьніклі супрацьлегласьці паміж партыяй і навуковымі працаўнікамі. ... Праф. Дарашэвіч прыводзіць чарод прыкладаў і ўспамінаў, якія характарызуюць цяжкія ўмовы навуковай працы ў БССР.
4. Сп. Манькоўскі прачытаў праект статуту БІНіМу, апрацаваны праф. Л. Акіншэвічам і ўзгоднены з камісіяй (статутовай) пакліканай да гэтага БАЗА. У дыскусіі над праектам статуту прынялі ўдзел шмат прысутных... : Н. Арсеньнева, праф. Л. Акіншэвіч, М. Цэлеш, М. Панькоў, А. Адамовіч, В. Тумаш. Др. Вітаўт Тумаш таксама паясьніў, што ўсе асобы, якія бяруць актыўны ўдзел у арганізацыйным сходзе БІНіМу, зьяўляюцца аўтаматычна сябрамі-закладчыкамі арганізацыі. ... Дыскусія доўжылася... над справай назову ўстановы. Быў пададзены шэраг назоваў: Беларускі Інстытут Навукі і Мастатцва, Беларускі Інстытут Культуры, Беларуская Вольная Акадэмія Навукаў, Беларускі Інстытут Культуры і Навукі. У галасаваньні найбольш галасоў (14) было пададзена за першы назоў... У справе статуту была прынятая 20 галасамі, пры двух устрымаўшыхся, пачатковая прапанова др. В. Тумаша: арганізацыйны сход прыймае зачытаны праект статуту БІНіМу як гатовы, даручаючы выбранаму ўраду апрацаваць канчатковы тэкст статуту да прыняцьця на наступным паседжаньні БІНіМу.
5. Др. В. Тумаш прапануе выбраць 5-асабовы прэзыдыюм БІНіМу. ... На старшыню БІНіМу былі пададзеныя наступныя кандыдатуры: праф. Л. Акіншэвіч, праф. М. Дарашэвіч, япіскап Васіль, др. В. Тумаш, др. Б. Грабінскі, др. А. Орса. За выняткам уладыкі Васіля ўсе кандыдаты зракліся сваіх кандыдатураў, падаючы да гэтага адпаведныя прычыны. За кандыдатуру ўладыкі Васіля галасавала 18 асобаў пры адным "проці". У прэзыдыюм БІНіМу былі выбраныя наступныя асобы: др В. Тумаш (21 голас). Праф. Л Акіншэвіч (20 г.) праф. М. Дарашэвіч (20). Н. Арсеньнева (15) і, як кандыдат, сп. У. Клішэвіч (9).
6. У розным дыскутавалася справа выданьня навуковага часапісу ў беларускай і ангельскай мовах.

Віталі арганізацыйны сход: ул. Васіль, праф. Чубатый ад Украінскага Навуковага Таварыства ім. Шаўчэнкі; інж. Ярэменка вітаў ад казакоў; сп. А. Адамовіч ад Крывіцкага Навуковага Таварыства імя Пранціша Скарыны; сп. Б. Данілюк ад Беларускага Студэнцкага Таварыства; сп. А. Махноўскі, па даручэньні, вітаў ад Прэзыдыюму Рады БНР; др. В. Тумаш ад Аб'еднаньня Беларускіх Лекароў на Чужыне; сп. У. Клішэвіч ад свайго імя.

Праф. Л. Акіншэвіч выказаўся пра неабходнасьць згуртаваць усе беларускія навуковыя і мастацкія сілы, каб працаваць для беларускага народу, а ген. Ф. Кушаль падкрэсьліў патрэбу гістарычных дасьдедваньняў і гістарычнага абаснаваньня беларускай дзяржаўнасьці.

Заключнае слова сказаў др. А. Орса і на гэтым арганізацыйны сход БІНіМу закончыўся.

*Старшыня сходу*
*Др. Аляксандар Орса*
*Сакратар*
*Часлаў Ханяўка*

***Ліста прысутных:***

Вітаўт Тумаш, Масей Сяднёў, Мікола Дарашэвіч, Янка Юхнавец, Мікола Гарошка, Францішак Кушаль, Часлаў Ханяўка, Аляксандар Махноўскі, Натальля Арсеньнева, Лявон Савёнак, Апалёнія Савёнак, Іна Рытар, Станіслаў Грынкевіч, Натальля Орса, Аляксандар Орса, Уладзімер Клішэвіч, Мікола Цэлеш, Мікола Панькоў, Уладзімер Сядура, Гіпаліт Паланевіч.

Паводле пратаколу, прысутнымі былі таксама:

Праф. Леў Акіншэвіч, Пётра Манькоўскі, Барыс Данілюк, япіскап Васіль, Антон Адамовіч і госьці.

*Далейшая гісторыя БІНіМу ўключае ў сябе даўгі сьпіс навуковых паседжаньняў, дыскусійных вечароў, культурных мерапрыемстваў, папулярных дакладаў, кантактаў зь іншанацыянальнымі навуковымі ўстановамі, бібліятэкамі, выдавецтвамі; удзел у міжнародных канфэрэнцыях, выданьне дзясяткаў манаграфіяў і зборнікаў, апрацоўку мэмарандумаў у дзяржаўныя ўстановы ЗША, ААН і г. д. Мяняліся пакаленьні кіраўнікоў і сяброў БІНіМу, а мэта заставалася нязьменнай: служыць беларускай навуцы й культуры, дэмаскаваць імпэрскую русыфікацыю Беларусі.*

*Вялікай часткай працы сталася выдаваньне зборнікаў "Запісы БІНіМ". Запачаткаваныя ў 1952 годзе, сёлета выйшаў 34-ты том, які рэдагавалі Натальля Гардзіенка (рэдактар нумару), Алег Гардзіенка, Лявон Юрэвіч, Том Бэрд (галоўны рэдактар), Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Генадзь Сагановіч і Сяргей Шупа.*

*Падтрымку дзейнасьці БІНіМу даюць сябры Інстытуту, шырокае грамадзтва ды Фундацыя П. Крэчэўскага.* ***Усім ім шчырае-шчырае ДЗЯКУЙ!***

*Сучасны склад управы БІНіМу: др. Вітаўт Кіпель, др. Янка Запруднік, праф. Том Бэрд, сп. Антон Шукелайць, сп. Лявон Юрэвіч.*

*Вітаўт Кіпель*

# БІНіМ і ягоныя сябры

БІНіМу - 60 гадоў. Няшмат арганізацыяў на эміграцыі могуць пахваліцца гэткай працяглай і багатай гісторыяй. Выдадзеныя дзясяткі кніг, праведзеныя дзясяткі мерапрыемстваў: канферэнцыяў, выставаў, сустрэчаў, пабачылі сьвет 34 нумары пэрыёдыка "Запісы БІНіМ". І бадай найгалоўнае — Інстытут аб'ядноўваў у сваіх шэрагах беларускія інтэлектуальныя сілы на Захадзе, не даваў ім расьцярушыцца, згубіцца…

На паліцы ў маім пакоі ляжыць адна з найцікавейшых і найкаштоўнейшых для мяне рэчаў — тэчка з анкетамі сябраў БІНіМу. Тут сабраныя зьвесткі пра беларускіх інтэлектуалаў на эміграцыі, запісаныя імі самімі, з вылучэннем найбольш істотнага ў інфармацыі пра сябе (адукацыя, навуковая ступеня, публікацыі, падрыхтаваныя да друку працы і г.д.). Гэтыя анкетныя запісы – цікавыя матэрыялы да біяграфіяў навукоўцаў і творцаў, а таксама падставы для роздумаў і ацэнкі даробку эміграцыйнай беларусікі.

Так, прыкладам, супрацоўнік універсытэту ў канадыйскім Кінгстане доктар Янка Садоўскі, што далучыўся да БІНіМу ў 1967 г., пазначыў у якасьці гатовай да публікацыі сваю доктарскую працу, прысьвечаную мове выданьняў Францыска Скарыны. На жаль, гэтая дысэртацыя так ніколі і не была выдадзеная, а англамоўны і франкамоўны яе варыянты захоўваюцца ў фондзе дасьледніка ў Нацыянальным архіве Канады ў Атаве.

У анкеце Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка пазначаныя чатыры ягоныя наяўныя на момант запаўнення (верагодна, 1952 г.) публікацыі:
"1) Process de la Ghromade Bielorusienne a Vilno. 32 бач. Выдадзена ў Празе ў 1927 г. (Брашура падпісана псэўдонімам N. Lausic — маецца тэкст ў Ньюёрскай бібліятэцы).
2) Ліхтэнштайн — дзяржава-ліліпут. Эканамічна-сацыяльна-праўны нарыс, паводле ўласнага на мейсцы досьледу. — 1928. Подэбрады.
3) Эканамічная гэаграфія Беларусі — 300 бачын машынапісу, забраная да друку прафэсарам Пічэта і перадана Ігнатоўскаму, але ў друку не аб'явілася з прычыны незадоўгае сьмерці У. Ігнатоўскага.
4) Прыродныя багацьці Беларусі. Навукова-папулярны нарыс. Лёндан 1947".

Калі апошняя праца даволі добра вядомая, то згадкі пра першыя тры, акрамя як у БІНіМаўскай анкеце, амаль нідзе болей не сустракаюцца. Цікавая і пазначаная ў раздзеле "падрыхтаваных да друку" манаграфія Міколы Абрамчыка, якую ён ахарактарызаваў як "Арганізацыя консульскай і дыплёматычнай службы. 120 бач. машынапісу. Мае быць падручнікам для пачынаючых практыку кадраў консульскай і дыплёматычнай службы". Пра выданьне гэтага дапаможніка таксама сёньня невядома, як і пра тое, ці захаваўся недзе машынапіс, ці згінуў разам з архівам Рады БНР.

Доктар Вінцэнт Жук-Грышкевіч, быў сябрам БІНіМу ад 1952 г., аднак у анкеце характарызуючы свае публікацыі абышоўся агульнымі згадкамі "артыкулы ў розных часопісах". У падрыхтаваных жа да друку працах значыцца назва дысэртацыі "Лірыка Янкі Купалы", абароненай у Атаўскім унівэрсытэце ў тым жа годзе. На жаль, і гэтая праца не была апублікаваная. Гэтаксама не пабачыла шырокая чытацкая аўдыторыя і дысэртацыю Міхася Саўкі-Міхальскага "Уклад ў вывучэньне старажытнасьцяў Беларусі", і працу Алеся Грыцука, прысьвечаную творчасьці Максіма Багдановіча, і шмат іншых дысэртацыяў, абароненых беларусамі ва ўнівэрсытэтах Бэльгіі, Чэхіі, Францыі, Канады ЗША і іншых краінаў.

Параўнальна няшмат вядома і пра дзейнасьць значнай часткі саміх навукоўцаў, літаратараў, мастакоў – сябраў БІНіМу – як ў даэміграцыйны пэрыяд, гэтак і на эміграцыі. Прыкладам, адкуль яшчэ, як не з анкеты, можна даведацца, што ў 1944 г. у Беластоку меліся выйсьці дзьве кнігі, падрыхтаваныя тым жа Алесем Грыцуком: "Прамень-чык" — першая кніжка для беларускіх дзетак", і "Чытанка" для ІІ клясы беларускіх школаў"? Або што пісьменьнік Мікола Сільвановіч (Вярба), які жыў у Вініпэгу (Канада), падрыхтаваў да друку два паэтычныя зборнікі "У Дарозе" (1947) і "Крывовы клічнік" (1950), ніводны зь якіх так ніколі і не пабачыў сьвету. Або што кампазытар Алесь Карповіч на пачатку 1950-х падрыхтаваў артыкул з гісторыі беларускай музыкі для італьянскай Enciclopedia dello spettacolo.

Цікава таксама, што ў складзенай у 1966 г. БІНіМаўскай анкеце Кастусь Акула пазначыў падрыхтаванымі да друку два англамоўныя творы: "Miss Cornflower" novel, ab. 250 p.; "Derelict`s vengeance", novel, about 300 pages". Які лёс напаткаў гэтыя творы? Магчыма, адказ на гэтае пытаньне знойдзецца ў архівах пісьменьніка.

Анкета доўгагадовага старшыні БІНіМу Вітаўта Тумаша таксама пакідае падставы для роздумаў. Напрыклад, што сталася зь ягоным дасьледаваньнем "Беларусы на нямецкіх унівэрсытэтах XVI ст.", пра публікацыю якога таксама бракуе зьвестак?

Ёсьць сярод імёнаў сябраў БІНіМу і тыя, пра каго вядома зусім мала. Відаць, не пасьпеў добра запоўніць сваю анкету самабытны беларускі мастак Аляксандар РамаНоўскі. У архіўнай тэчцы захавалася толькі ўпаўнаважаньне з арыгінальным аўтографам творцы, забітага каханкаю ў Сыднэйскім гатэлі ў 1955 г. Наўрад ці шмат больш за анкетныя зьвесткі вядома сёньня пра пісьменьніка Янку Шакуна. Хіба крыху болей — пра беларускага навукоўца з Аргентыны Эміля Цяўлоўскага…

Напісаныя ў розныя часы сябрамі галоўнай арганізацыі беларускіх інтэлектуалаў на Захадзе анкеты сьведчаць пра тое, кім былі тыя людзі навукі й мастацтва, якіх аб'яднаў БІНіМ. Хтосьці, як выпускнікі Лювэнскага ўнівэрсытэту Янка Запруднік, або Алесь Марговіч у 1955 г., калі падавалі зьвесткі пра сябе, яшчэ не пазначылі ніводнай публікацыі ні наяўнай, ні ў плянах. А ў кагосьці, як у Юркі Віцьбіча, Гіпаліта Паланевіча, а. Лявя Гарошкі й іншых, сьпісы зробленага й запланаванага зь цяжкасьцю зьмяшчаліся на адной старонцы. І першым, і другім БІНіМ даваў падтрымку ў рэалізацыі іхных задумаў, даваў магчымасьці для публікацыі вынікаў творчай і дасьледнай дзейнасьці.

Тым не менш, і даробак БІНіМу, і вынікі працы беларускіх інтэлектуалаў на Захадзе яшчэ даволі мала вядомыя і недастаткова ацэненыя беларускім грамадзтвам і навукоўцамі. Гісторыя Інстытуту даўно патрабуе адмысловага дасьледаваньня, а біяграфіі ягоных сябраў — спэцыяльнага энцыкляпэдычнага даведніка, для падрыхтоўкі якога магчыма скарыстаць і гэтую архіўную тэчку з анкетамі.

*Натальля Гардзіенка*
*Менск*

Канадыйскі БІНіМ шчыра віншуе нашых сяброў - Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку з шасьцідзесяцігоддзем!

Вечная памяць тым, хто адыйшлі. Нізкі паклон тым, хто, не шкадуючы сябе, працягвае працаваць на высокім акадэмічным узроўні і сьведчыць пра Беларусь у сьвеце.

Мы жадаем вам, нашы дарагія калегі па навуковай працы, новых важкіх посьпехаў ў справе дасьледаваньня і асэнсаваньня беларускай гісторыі і культуры.
Жыве Беларусь!
Жыве БІНіМ!

*Ад імя сяброў Канадыйскага БІНіМу*
*Зіна Гімпелевіч*

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня віншуе Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва з 60-гадовым юбілеем. Мы высока ацэньваем тыя вялізныя інтэлектуальныя набыткі, якія назапасіў БІНіМ за ўсю гісторыю ягонай дзейнасьці. Жадаем сучаснаму складу Інстытуту плённа папаўняць гэтую скарбніцу. Посьпехаў вам і актыўнага творчага жыцьця!

**Ахвяраваньні на БІНіМ даслалі:**

**Вольга Грыцук** $ 300

**Л. Літаровіч** *у памяць*
*Аляксандры Сямёнавай* $ 100
*і Тамары Аўдзей* $ 100

**Н.і Я. Запруднікі** *ў памяць*
*Аляксандры Сямёнавай* $ 100
*і Тамары Аўдзей* $ 100

Паважанае Грамадзтва! Віншуючы БІНіМ з 60-мі ўгодкамі, далучайце, калі ласка, таксама грашовае ахвяраваньне на далейшую дзейнасьць Інстытуту.

*З падзякай –*
*Управа БІНіМу*
*Janzap42gmail.com*

# Дзіцячая старонка

***Бо так палюбіў Бог сьвет, што Сына свайго Адзінароднага даў, каб кожны, хто верыць у Яго, не памёр, але меў жыцьцё вечнае. Бо не паслаў Бог Сына свайго ў сьвет, каб судзіць сьвет, але каб сьвет быў збаўлены праз Яго.***
***(Эвангельле паводле Яна 3:16-17)***

Дарагі чытач!

Мы сьвяткуем Каляды, сьвята Божага нараджэньня. Ці ведаеш ты, калі пачалося тваё жыцьцё? Так, вядома, штогод ты сьвяткуеш свой дзень народзінаў. Твая маці памятае гэты дзень вельмі добра, калі ты з’явіўся на сьвет дарагім малюсенькім немаўляткам.

Ісус нарадзіўся малюсенькім немаўляткам таксама, але ён жыў доўга-доўга да гэтага. Ісус – Бог. Бог заўсёды жыў. Ісус, Сын Божы, жыў у нябёсах яшчэ і тады, калі нашага сьвету яшчэ ня было.

Табе пэўна ўжо расказвалі, што Бог стварыў сьвет. На пачатку сьвет быў добры і прыгожы. Першыя людзі Адам і Ева былі цудоўныя, створаныя паводле Божага падабенства. Але грэх сапсаваў сьвет і пасьля гэтага журботы, хваробы, варожасьць і праблемы ўвайшлі ў сьвет. Але Бог хацеў уратаваць сьвет і Сьвяты Дух зрабіў Ісусу чалавечае цела. Так Ісус нарадзіўся ў мястэчку Бэтлееме малюсенькім немаўляткам. У тую ноч радасна сьпявалі анёлы, яны былі рады, таму што Ісус прыйшоў у сьвет каб быць Збаўцам.

Для Ісуса гэта было вялікай розьніцай! Нябёсы поўныя славы, там няма хваробы, самоты і граху. Але Ісус пакінуў Свой прыгожы дом, Свайго Айца, анёлаў і спусьціўся на грэшную зямлю.

Ісус быў багаты ў нябёсах, усё яму належала. Калі ён прыйшоў на зямлю, ён стаў бедны. Для яго нават не было хаты, ён нарадзіўся ў хляве. Ён нават ня меў ложачка, яго паклалі ў ясьлях.

Ісус быў усемагутны ў нябёсах. Ён быў Спадаром нябёсаў я зямлі, Спадаром анёлаў. Калі Ён стаў немаўляткам, ён нічога ўвогуле зрабіць ня мог. Ён быў бездапаможным, як і ўсе немаўляткі.
Ісус стаў такім, як мы, толькі што грэху ён ня меў.

Гісторыя нараджэньня Ісуса – самая цудоўная гісторыя ў Бібліі. Гэта самая цудоўная гісторыя ў сьвеце. Толькі падумайце: Ісус, Сын Божы, стаў немаўляткам, чалавекам! Ён стаў немаўляткам, каб нас ўратаваць, таму што Бог нас любіць.

*•Дзе быў Ісус да таго, як Ён нарадзіўся маленькім немаўляткам у Бэтлееме?*

*•Чаму Ісус прыйшоў на зямлю?*

*•Што Ён пакінуў у нябёсах?*



## Прыйдзіце да Збаўцы

Прый- дзі- це да Збаў- цы, вер- ны- я са сьпе- вам! Прый- дзі- це да ясь- ляў Я- го ў Бэт- ле- ем! Кароль на- ра- дзіў- ся, Кароль у- сіх ства- рэнь- няў. Прый-дзі- це па- кла- ніц- ца, Прый- дзі- це па- кла- ніц- ца, Прый- дзі- це па- кла- ніц- ца, Спа- да- ру.

1. Прыйдзіце да Збаўцы,
Верныя са сьпевам!
Прыйдзіце да ясьляў яго ў Бэтлеем!
Кароль нарадзіўся,
Кароль усіх стварэньняў.

*Прыйдзіце пакланіцца,*
*Прыйдзіце пакланіцца,*
*Прыйдзіце пакланіцца, Спадару.*

2. Нябёсныя хоры,
Радасна сьпявайце!
Сусьвет няхай чуе хваленьне Хрысту!
Слава, гасанна
Ў вышынях Богу.

*Прыйдзіце пакланіцца,*
*Прыйдзіце пакланіцца,*
*Прыйдзіце пакланіцца, Спадару.*

3. Ісусе, цябе
Мы радасна вітаем,
Табе чэсьць і славу ад сэрца пяем
Вечнае Слова
Зьявілася ў целе.

*Прыйдзіце пакланіцца,*
*Прыйдзіце пакланіцца,*
*Прыйдзіце пакланіцца, Спадару.*

# Памёр Вацлаў Гавал

18 сьнежня ва ўзросьце 75 гадоў памёр першы прэзыдэнт Чэскай рэспублікі Вацлаў Гавэл. Вацлаў Гавэл атрымаў вядомасьць у шасьцідзясятыя гады як драматург і літаратурны крытык. Пасьля падзей Праскай вясны 1968 году далучыўся да апазыцыі, публікаваўся ў асноўным за мяжой, неаднаразова арыштоўваўся ўладамі.

У 1989 годзе Гавэл быў адным з ініцыятараў стварэньня «Грамадзянскага форуму», які стаў галоўнай апазыцыйнай сілай у Чэхіі.

На сумесным пасяджэньні абедзьвюх палат Фэдэральнага сходу Чэхаславацкай сацыялістычнай рэспублікі 29 сьнежня 1989 году Гавэл быў аднагалосна абраны прэзыдэнтам, а ў 1993 годзе стаў прэзыдэнтам незалежнай Чэхіі.



**Сяргей Навумчык, Івонка Сурвіла і Вацлаў Гавал, сакавік 2008 году**



Па просьбе кіраўніка Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода Аляксандра Лукашука за некалькі дзён да сьмерці Вацлаў Гавал напісаў ліст беларускім палітвязьням. На сайце Радыё Свабода быў апублікаваны тэкст гэтага ліста, які, магчыма стаў апошнім тэкстам, што Вацлаў Гавал напісаў у сваім жыцьці:

*Градэчэк, 15 сьнежня 2011*

*Дарагія сябры,*

*Хацеў бы сардэчна вас павіншаваць на парозе новага году і пажадаць вам і вашым блізкім, каб ён быў лепшым, чым мінулы. Выказваю салідарнасьць з вашай пазыцыяй і буду і надалей выкарыстоўваць усе магчымасьці, каб разам са сваімі сябрамі зьвяртаць увагу міжнароднай грамадзкасьці на парушэньне грамадзянскіх правоў у Беларусі.*

*Жадаю усяго добрага вам і свабоды вашай краіне.*
*Вацлаў Гавал*

## На разьвітаньне з Вацлавам Гаўлам адгукнуліся беларускія палітычныя і грамадзкія дзеячы.

**Івонка Сурвіла – старшыня Рады БНР:**

*“Ён заўсёды цікавіўся Беларусьсю і заўсёды быў гатовы дапамагчы. Выступаў за дэмакратыю ў Беларусі. Заўсёды былі ягоныя дзьверы адчыненыя для беларускіх палітыкаў. Наогул, дзясяткі і дзясяткі рэчаў у ім мяне вельмі ўражвалі. Вельмі буду сумаваць па ім”.*

# РАЗЬВІТАНЬНЕ ЯШЧЭ З АДНЫМ ГОДАМ
## Ліст да сваякоў і сяброў

Дарагія нашы!

Працуючы шахтаром у Англіі ў 1949 годзе – гэта 62 гады таму! – і займаючыся крыху паэзіяй для нашага часапісу “Наперад!”, я пачаў адзін свой верш (пад загалоўкам “На грыве дзён”) радком: “Дні лятуць, як спуджаныя коні”. Сёньня трэба было б напісаць ужо “Гады лятуць, як спуджаныя коні”... Максім Багдановіч , выказваючыся на падобную тэму, зазначыў яшчэ: “І мы ляцім... да зор”. Згадка пра “зоры” вельмі пацяшальная. Ну, але пакуль мы на зямлі, дык выпадае аглянуцца на год, які канчаецца, ды, пэўна ж, “зазірнуць” у год наступны, хоць бы адно пажаданьнямі-спадзяваньнямі. Бо ведама, што пра будучыню нам нічога ня ведама. Дый наша веда пра сваю мінуўшчыну застаецца пашматкаваная на фрагмэнты. Асабліва, калі чалавек дажыў да такога веку, як у мяне. Сёньняшнія дні, напоўненыя канкрэтным зьместам,ператвараюцца ў сваёй бальшыні амаль адразу ж у дзіркі памяці. Таму я гадамі ўжо вяду свае каляндарыкі-дзёньнічкі, у якіх часамі знаходзіш пасьля патрэбныя для сябе даведкі. Каляндарыкі гэтыя, бывае, цікава перачытваць праз пэўны адрэзак часу. Адзін радок узбуджае іншы раз цэлы пласт памяці. У ангельскай мове ёсьць трапны тэрмін на такую зьяву – memory lane = сьцежка ўспамінаў.

У нас з Надзяй на сьцежцы ўспамінаў пра сёлетні год, калі ня браць у рукі каляндарыка, памятных падзеяў засталося ня так ужо й шмат. Цэлы год прасядзелі дома. Намер паехаць у Сьвятую Зямлю, далучыўшыся да тутэйшай грэцкай грамады, на жаль, ня збыўся. Год прайшоў даволі манатонна: у царкву, з царквы; у клюб (спартовы), з клюбу; ад кампютара да стала, ад стала да кампютара; і г. д.. Нават у Нью-Ёрк , хоць і намерваліся, ні разу ня зьезьдзілі, каб узбагаціцца нейкім новым настроем. Усё гэта пішацца, каб панаракаць крыху . Можа хто-небудзь зжаліцца. Чалавеку падабаецца, калі яго нехта пашкадуе. Але калі па-гаспадарску глянуць на год, які вось-вось кане ў прорву памяці, дык сякія-такія вынікі можна адзначыць. Па-першае, трымалі сталую лучнасьць зь сям’ёй, зь сябрамі. Шмат каму памаглі парадамі, грашыма, кнігамі, лістамі, асабістым удзелам у той ці іншай справе. Завяршылі апрацоўваньне тэксту кнігі пра беларускія фэстывалі, здаўшы нядаўна тэкст Міколу й Іры Дуткам на макетаваньне ды ілюстраваньне. Адбылі саўтрывэрскі фэстываль, адзначылі Янкавы 85-я ўгодкі, адсьвяткавалі хрэсьбіны Тамарынай дачушкі. Давялося і паніхіды сьпяваць, і нябожчыкаў праводзіць, і нэкралёгі пісаць. Поўны жыцьцёвы цыкль! І пакуль мы ў ім, мы задаволеныя. Бо ёсьць толькі тое, што ёсьць. Дзякаваць Богу, што ня было большых клопатаў, хваробаў, сварак, якімі, калі глянеш навокала, поўніцца рэчаіснасьць.

Вось з такім паглядам на жыцьцёвую плынь сустракаем Новы Год. Будзем і ў ім трымацца разам, будзем адчуваць нашу далейшую супольнасьць. Бо ў цяплыні працягнутай рукі ляжыць прыемнае адчуваньне камфорту й бясьпекі, зь якім лягчэй жывецца й весялей глядзіцца на гэты Божы сьвет.

Дык з Новым Годам і са старым сяброўствам! Вясёлых Каляд!

Янка й Надзя Запруднікі
20 сьнежня 2011

*J & N Zaprudnik*
*42 Deerfield Rd.*
*Somerset, NJ 08871*
*(732) 247-1822*
*janzap42@gmail.com*

# Каляндар памятных датаў на студзень 2012 году

**1 студзеня** – Навагоднія сьвяты

**6 студзеня** - 120 гадоў таму, у 1892 годзе, нарадзіўся Адам Станкевіч, рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзка-культурны дзеяч, асьветнік, выдавец, публіцыст

**7 студзеня** – Каляды (Раство Хрыстова) па праваслаўным (юліянскім) календары

**7 студзеня** – 95 гадоў таму, у 1917 годзе, нарадзіўся Сьвятаслаў Коўш, праваслаўны сьвятар, пісьменьнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**9 студзеня** – 115 гадоў таму, у 1897 годзе, нарадзіўся Васіль Шашалевіч, драматург, вязень ГУЛАГу

**9 студзеня** – 110 гадоў таму, у 1902 годзе, нарадзіўся Антон Жэбрак, генэтык, селекцыянер, грамадзкі дзеяч, акадэмік

**10 студзеня** – 115 гадоў таму, у 1897 годзе, нарадзілася Юлія Бібіла, бібліёграф, майстрыха мастацкага ткацтва

**12 студзеня** – 10 гадоў таму, у 2002 годзе, памёр Яўген Кулік, мастак, грамадзкі дзеяч, удзельнік беларускага адраджэнскага руху

**14 студзеня** – Новы год па праваслаўным (юліянскім) календары

**14 студзеня** – 85 гадоў таму, у 1927 годзе, нарадзіўся Янка Філістовіч, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, расстраляны саветамі ў 1953 годзе

**17 студзеня** – 280 гадоў таму, у 1732 годзе, нарадзіўся Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь Літоўскі

**18 студзеня** – 100 гадоў таму, у 1912 годзе, нарадзіўся Пятро Сыч, пісьменнік, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Вялікай Брытаніі і Нямеччыне

**18 студзеня** – 65 гадоў таму, у 1947 годзе ў Лёндане адбываўся Першы зьезд Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ)

**20 студзеня** – 120 гадоў таму, у 1892 годзе, нарадзіўся Браніслаў Тарашкевіч, грамадзка-палітычны і асьветны дзеяч, мовазнавец, публіцыст, аўтар першай "Беларускай граматыкі для школ"

**20 студзеня** – 120 гадоў таму, у 1892 годзе, нарадзіўся Рыгор Шырма, грамадзка-культурны дзеяч, харавы дырыжор, фальклярыст

**24 студзеня** – 115 гадоў таму, у 1897 годзе, памёр Альфрэд Ромэр, мастак, скульптар, этнограф, удзельнік паўстаньня 1863-64 г.г.

**26 студзеня** – 105 гадоў таму, у 1907 годзе, нарадзіўся Мікалай Лапіцкі, праваслаўны сьвятар, рэлігійна-грамадзкі дзеяч эміграцыі ў ЗША

**28 студзеня** – 435 гадоў таму, у 1577 годзе, Мазыр атрымаў Магдэбургскае права і герб

**28 студзеня** – 90 гадоў таму, у 1922 годзе, нарадзіўся Янка Жамойцін, грамадзкі дзеяч, публіцыст, беларускі дзеяч ў Польшчы

**29 студзеня** – 10 гадоў таму, у 2002 годзе, памёр Пётр Манькоўскі, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**30 студзеня** – 90 гадоў таму, у 1922 годзе, у Менску заснаваны Інстытут Беларускай культуры (Інбелкульт)

**30 студзеня** – 20 гадоў таму, у 1992 годзе, Беларусь была прынятая ў сябры Арганізацыі па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе (АБСЭ)

**31 студзеня** – 55 гадоў таму, у 1957 годзе, у Менску заснаваны Беларускі дзяржаўны гісторыка-краязнаўчы музэй (цяпер – Нацыянальны музэй гісторыі і культуры Беларусі)

## Беларускі Вольны тэатр патрапіў у Топ-10 «The New York Times»

Упершыню ў выніковы рэйтынг тэатральных падзеяў 2011 году, складзены газэтаю The New York Times, трапіў беларускі спектакль – «Быць Гаральдом Пінтерам» Беларускага Вольнага тэатра. Папасьці ў гэты рэйтынг мараць лепшыя тэатры сьвету.

Спектакль «Быць Гаральдом Пінтерам», у пастаноўцы Уладзіміра Шчэрбаня, быў з трыумфам паказаны ў Нью-Йорку і Чыкага ў студзені і красавіку-траўні 2011 году. Спектакль атрымаў высокія оцэнкі крытыкі і быў намінаваны на галоўную ўзнагароду для драматычных спектакляў Амэрыкі – Drama Desk Award.

У красавіку 2011 году Вольны театр атрымаў амэрыканскую прэстыжную тэатральную ўзнагароду – OBIE Award, а газэта The New York Times у пачатку 2011 году прысьвяціла беларускаму тэатральнаму калектыву тры публікацыі.



## Новая кніга пра Беларусь

Нядаўна Yale University Press выдаў цікавую кнігу пра Беларусь пад назваю "Беларусь – апошняя дыктатура Эўропы" ("BELARUS – Last European Dictatorship").

Аўтар кнігі Эндру Уілсон (Andrew Wilson) – прафесар University College у Лёндане. Ён вядомы дасьледчык гісторыі і сучасных падзеяў ў Беларусі і Украіне. У кнізе апісваецца гісторыя Беларусі, пачынаючы ад Полацкага княства да сёньняшняга часу. Аўтар аналізуе прыход Лукашэнкі да ўлады і ягоную сістэму кіраваньня, што дазволіла яму так доўга застацца пры ўладзе.

Інтэрвю з аўтарам кнігі можна пачытаць на сайце www.belarusdigest.com.

Кнігу можна набыць праз www.amazon.com.

## АБ'ЯВА

Чарговы сход Бруклінскага адзелу БАЗА адбудзецца 15 студзеня 2012г. а 12:30 па паўдні ў грамадзкай залі пры Саборы Св. Кірылы Тураўскага 401 Atlantic Ave.

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| С. і К. Будкевіч | $ 60 |
| Алекс Мароз | $ 50 |
| Марыя Мароз | $ 50 |
| Міхась Раецкі | $ 50 |
| Асацыяцыя беларусаў у Адэлаідзе | $ 250 |

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
**Belarusan American Ass'n, Inc.**

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Андрусь Падлескі – адказны за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
**Hazeta Bielarus**
**166-34 Gothic Drive**
**Jamaica, NY 11432**
**USA**

**Грашовыя чэкі выпісваць на імя : *BIELARUS newspaper***
дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email): bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*